Праваабарончы

# Веснік

лістапад 2012

Магілёўскі праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь

# ЗА ВАС ПРАГАЛАСАВАЛІ

**Кампанія «Праваабаронцы за свабодныя выбары» лічыць, што выбарчы працэс прайшоў з сур'ёзнымі парушэннямі прынцыпаў дэмакратычных і справядлівых выбараў, замацаваных стандартамі АБСЕ і беларускім заканадаўствам. Атмасфера палітычнага пераследу і рэпрэсій апанентаў улады, на фоне якой праходзіла выбарчая кампанія, абмежаванні падчас фарміравання выбарчых камісій, агітацыйнай кампаніі, негатыўна паўплывалі на свабоду выбару. Непразрыстасць падліку галасоў не дае падставаў сцвярджаць, што вынікі выбараў адлюстроўваюць волевыяўленне беларускага народа.**

У Магілёўскай вобласці падчас кампаніі па выбарах дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь пятага склікання было ўтворана 13 выбарчых акругаў (№№78-90). Непасрэдна ў Магілёве такіх акругаў было чатыры (№№84-87).

**Інфармацыя аб выбарах у мясцовых дзяржаўных СМІ**

На першым этапе выбарчай кампаніі мясцовыя друкаваныя СМІ абыходзілі тэму парламенцкім выбараў поўным маўчаннем. У газетах “Веснік Магілёва”, “Магілёўскія ведамасці”, “Магілёўская праўда”, “Днепровская неделя” і “Вечерний Могилёв” выкарыстоўваліся выключна перадрукоўкі матэрыялаў інфармацыйнай агенцыі навінаў БелТА. Сваіх уласных матэрыялаў, прысвечаных выбарчай тэматыцы, у газетах не было.

У адрозненне ад мінулых кампаній, мясцовыя СМІ устрымліваліся ад палівання брудам апазіцыі і апазіцыйных кандыдатаў. Самі ж апазіцыйныя партыі мясцовыя СМІ ў сваіх публікацыях не ўзгадвалі, а называлі іх проста “іншымі” палітычнымі партыямі і арганізацыямі.

Перадвыбарчыя тэксты

*Працяг на старонцы 2*

## НА ДАМУ ПРАГАЛАСАВАЛА Ў 4 РАЗЫ БОЛЬШ, ЧЫМ НА ЎЧАСТКУ

Еўрарадыё заўважыла неверагодныя лічбы людзей, якія прагаласавалі на даму на некалькіх выбарчых участках у Магілёве. Без гэтага электарата выбары б не адбыліся!

Звычайна на даму галасуе каля 30 чалавек. Але вось выбарчы ўчастак № 62 у Магілёве. Там свой грамадзянскі абавязак выканалі 835 чалавек, з іх 248 — па месцы жыхарства.

«Абсалютна фантастычная лічба. Больш за 50 чалавек проста немагчыма абыйсці ў дзень галасавання. Калі б яны сапраўды змаглі сабраць 248 галасоў па кватэрах, сябрам камісіі давялося б хадзіць як мінімум суткі з іх дзвюма скрынямі для галасавання, — кажа назіральнік кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары» Аляксей Колчын. — Першы раз мы хадзілі раніцай больш за гадзіну, набралі 6 галасоў. Другі раз пасля абеду, там было каля 10».

А потым сябры камісій схадзілі яшчэ некалькі разоў

*Працяг на старонцы 5*

# ЗА ВАС ПРАГАЛАСАВАЛІ

*Працяг.*
*Пачатак на на старонцы 1*

кандыдатаў у дэпутаты ў мясцовых СМІ друкаваліся без істотных праблем.

Адзіным зафіксаваным выпадкам была сітуацыя з кандыдатам у дэпутаты ад Беларускай партыі левых “Справядлівы свет” Ліліяй Сіваковай, якой намеснік галоўнага рэдактара газеты “Магілёўскія ведамасці” Генадзь Ляхаў без яе згоды выкінуў з тэксту адну фразу “Усё вырашае толькі адзін”.

## Пазіцыя Магілёўскай абласной кааліцыі дэмакратычных сіл адносна выбараў

Магілёўская абласная кааліцыя дэмакратычных сіл 28 чэрвеня прыняла заяву, у якой заклікала жыхароў Магілёўшчыны байкатаваць парламенцкія выбары. На думку мясцовых дэмакратаў, не былі створаны належныя ўмовы для правядзення свабодных выбараў, у тым ліку не адбылося зменаў выбарчага заканадаўства.

## Утварэнне акруговых выбарчых камісій

У склад 13 акруговых выбарчых камісій прадстаўнікі дэмакратычных сіл вобласці вылучылі 30 сваіх прадстаўнікоў. Не вылучаны былі прадстаўнікі толькі ў склад Бабруйскай сельскай выбарчай акругі №80. Партыя БНФ і Рух БНФ “Адраджэньне” вылучылі 11 прэтэндэнтаў, Беларуская партыя левых “Сапвядлівы свет” -10, АГП – 9.

Патрапіць у склад акруговых выбарчых камісій здолела ўсяго тры прадстаўнікі апазіцыі: два прадстаўнікі партыі “Справядлівы свет” і адзін прадстаўнік АГП.

## Утварэнне ўчастковых выбарчых камісій

На Магілёўшчыне было ўтворана 809 выбарчых участкаў, што на 30 меней, чым было на мінулых парламенцкіх выбарах.

77 прадстаўнікоў апазіцыі было вылучана ў склад участковых выбарчых камісій ад розных палітычных партый і арганізацый, аднак ніхто з іх туды не быў уключаны. Усім было адмоўлена па розных прычынах – пенсійны ўзрост, няма вопыта працы ў камісіяй, беспрацоўны і г.д.

Абскарджанне неўключэння прадстаўнікоў апазіцыі праз суд не прынесла ніякіх вынікаў.

Камісіі ў сярэднім мелі колькасны склад 15 чалавек. Законам дазваляецца максімум 19 чалавек. Такім чынам, падставаў для неўключэння ў склад участковых камісій прадстаўнікоў апазіцыі не было.

## Рэгістрацыя ініцыятыўных груп

На Магілёўшчыне былі зарэгістраваны амаль усе ініцыятыўныя групы апазіцыйных прэтэндэнтаў у дэпутаты. Выключэннем сталі ініцыятыўныя групы Мікалая Статкевіча.

Рэгістрацыя кандыдатаў у дэпутаты ў Магілёве:

Магілёўская-Ленінскай выбарчая акруга №84

Не прайшоў рэгістрацыю магілёўскі лідэр арганізацыі БНФ “Адраджэньне” Сяргей Брыцікаў. Нагодай для адмовы ў ягонай рэгістрацыі стала недакладная інфармацыя ў дэкларацыі. Ён не ўключыў акцыі прадпрыемстваў, якія знаходзяцца ў ягонай уласнасці. На думку Брыцікава, гэта было неістотнае парушэнне і ён безвынікова спрабаваў абскардзіць адмову ў рэгістрацыі ў вышэйстаячых інстанцыях.

Магілёўская-Цэнтральная выбарчая акруга №85

Адмоўлена ў рэгістрацыі актывісту Руху “За свабоду” Рыгору Антановічу. Перад падачай дакументаў у акруговую камісію з ім здарыўся абшырны інфаркт, і ён аказаўся ў шпіталі. Сам падаць подпісы не здолеў, і яны разам з іншымі дакументамі былі накіраваны ў акруговую камісію заказным лістом. У рэгістрацыі Антановічу было адмоўлена ў сувязі з тым, што не было асабістай падачы дакументаў у акруговую камісію.

Магілёўская-Кастрычніцкая выбарчая акруга №86

Не зарэгістравана Ала Жарнасек, якая вылучалася ў дэпутаты шляхам збору подпісаў. Праверка выявіла, што ў яе болей за 15% подпісаў несапраўдныя.

Не зарэгістравана таксама вылучэнка ад Ліберальна-дэмакратычнай партыі Беларусі (ЛДПБ) Ганна Ефімовіч. У яе былі выяўлены недакладнасці пры запаўненні дэкларацыі.

### Збор подпісаў

Збор подпісаў у Магілёве за праўладных кандыдатаў адбываўся з выкарыстоўваннем адміністрацыйнага рэсурсу. Былў зафіксаваны шэраг выпадкаў, калі на працоўных месцах і ў інтэрнатах рабочых прымушалі падпісваца за таго ці іншага вылучэнца ад улады.

Збіраць жа подпісы ў шэрагу інтэрнатаў за апазіцыйных кандыдатаў было забаронена. Вышэйстаячае начальства забараняла адміністрацыі інтэрнатаў прапускаць зборшчыкаў подпісаў з любой нагоды. У гэтым пытанні вызначыўся начальнік чатырох інтэрнатаў Павел Шышоў, які арганізаваў две скаргі на кандыдатаў Леаніда Падбярэцкага і Уладзіміра Пунчанку ў акруговыя камісіі за тое, што члены іх ініцыятыўных груп спрабавалі патрапіць унутр інтэрнатаў для збору подпісаў.

Тым часам у гэтых жа інтэрнатаў у адкрытую ажыццяўляўся збор подпісаў за праўладных вылучэнцаў - пракурора Эдуарда Сянкевіча і дзеючага дэпутата парламента Ўладзіміра Васіленку.

Трэба адзначыць, што адным зборшчыкам подпісаў у вахцёркі інтэрната быў заўважаны чорны спіс асобаў (зборшчыкаў подпісаў), якім забаронены ўваход у інтэрнат пад любой нагодай.

### Агітацыя

Агітацыйная кампанія ў горадзе адбывалася фактычна незаўважна для магілёўскіх выбаршчыкаў. Большую актыўнасць праявілі вылучэнцы кампаніі “Гавары праўду”. Сустрэчы з выбаршчыкамі спрабавалі праводзіць толькі кандыдаты Тацяна Кузьмянкова і Леанід Падбярэцкі. На сустрэчу з першай кандыдаткай прыйшло каля 10 чалавек. На 4 сустрэчы Леаніда Падбярэцкага, якія адбываліся ў актавых залах школ №15, 35, 40 і Палацы культуры чыгуначнікаў, не прыйшоў ні адзін чалавек. Інфармаваннем аб сустрэчах з кандыдатамі займаліся выключна акруговыя камісіі.

Кандыдатам у дэпутаты было адмоўлена ў размяшчэнні агітацыйных улётак у тралейбусах і аўтобусах Магілёва.

Тэледэбаты адбыліся толькі на чатырох з 13 выбарчых акругах. Праўладныя кандыдаты, за выключэннем пракурора Эдуарда Сянкевіча, ад тэледэбатаў устрымліваліся.

Быў зафіксаваны выпадак, калі выкарыстоўваўся адміністрацыйны рэсурс пры агітацыі ў СМІ за праўладную кандыдатку Людмілу Старасціну. Газета “Веснік Магілёва” адвяла для расповяду пра яе цэлую старонку фармату А3.

Тым часам, вядомы выпадкі, калі адбываліся сустрэчы праўладных кандыдатаў у дэпутаты з працоўнымі калектывамі (напрыклад, з Эдуардам Сянкевічам). Іншым кандыдатам у дэпутаты ў правядзенні такіх сустрэч з працоўнымі калектывамі было адмоўлена.

Трэба таксама адзначыць, што відэавыступы тых кандыдатаў, якія заклікалі да байкоту, не паказваліся па тэлебачанні (кандыдаты ад АГП), гэтаксама як і не друкаваліся іх улёткі ў друкарнях як дзяржаўных, так і прыватных (кіраўнік абласной арганізацыі АГП У.Шанцаў).

За правядзенне пікета ў нявызначаным мясцовымі ўладамі месцы быў затрыманы кандыдат Леанід Падбярэцкі. Ён забыўся уведаміць акруговую камісію за 2 дні аб жаданні правесці пікет і правёў яго ў нявызначаным месцы. За гэта ён быў затрыманы міліцыяй і дастаўлены ў РАУС для разбіральніцтва. Ужо вечарам таго дня ягоная адміністрацыйная справа была закрыта і праз некалькі дзён за гэты інцыдэнт ён атрымаў афіцыйнае папярэджанне ад акруговай камісіі.

Кандыдат Аксана Закрэўская была ўведамлена аб тым, што калі не перастане выкарыстоўваць герб горада ў сваіх перадвыбарчых агітацыйных матэрыялах, то атрымае штраф у памеры 2 млн рублёў. Прычынай такой нязвыклай просьбы стаў ліст з гарвыканкаму, які быў накіраваны ў акруговую камісію №87. У выніку Закрэўская адмовілася перарабляць агітацыйную прадукцыю, бо большая частка яе ўжо была распаўсюджана. Пагроза штрафу засталася толькі пагрозай на паперы.

Ахвярай выбарчай кампаніі стаў актывіст БСДП (Грамады) Мікалай Залозны, на якога падчас выбарчай кампаніі ўзмацніўся ціск, і яго звольнілі з працы. Ён працаваў сантэхнікам пад начальствам ужо ўзгаданага Паўла Шышова, які курыраваў інтэрнаты. Як толькі той даведаўся, што Залозны ўваходзіць у ініцыятыўную групу Леаніда Падбярэцкага, пачаў на яго ціснуць – двойчы дэпрэміраваў, прымусіў рабочых пісаць на яго дакладныя запіскі штодня, знялі ўсе працоўныя надбаўкі, перавялі

*Заканчэнне на старонцы 4*

# ЗА ВАС ПРАГАЛАСАВАЛІ

*Заканчэнне.*
*Пачатак на на старонцы 1*

на іншае месца працы і ў выніку далі на падпісанне новы ўзор кантракту, які Мікалай Залозны падпісаць адмовіўся.

### Датэрміновае галасаванне

Многія назіральнікі фіксавалі нізкую яўку выбаршчыкаў і прыпіскі ў пратаколах аб колькасці прагаласаваўшых. Зафіксаваны выпадкі, калі яўку штодзённа павялічвалі ў канцы дня ў 2-7 разоў. Вынікі падліку колькасці прагаласаваўшых у назіральнікаў з лічбамі ў пратаколах у канцы дня не сыходзіліся амаль на ўсіх участках.

Падчас датэрміновага галасавання былі зафіксаваны выпадкі прымусовага галасавання, калі рабочых і студэнтаў, а таксама жыхароў інтэрнатаў прымушалі галасаваць датэрмінова, пагражаючы расправай, калі яны не прагаласуюць.

### Дзень выбараў

У дзень выбараў магілёўскія назіральнікі і праваабаронцы фіксавалі нізкую яўку выбаршчыкаў. Выбарчыя ўчасткі для галасавання былі амаль пустыя. У сярэднім агульная яўка выбаршчыкаў не перавышала 35-40% на большасці выбарчых участкаў.

Часта кіраўнікі выбарчых камісій не ішлі на супрацоўніцтва з назіральнікамі ад апазіцыйных партый і арганізацый. Яны не прадастаўлялі ім звесткі аб колькасці прагаласаваўшых, агульнай колькасці выбаршчыкаў на ўчастку і г.д.
Калі ж назіральнікі пачыналі пісаць скаргі на членаў камісій, то іх у некаторых выпадках альбо не прымалі, альбо прымалі і адразу назіральнікам выносілі папярэджанні і выдалялі іх з участкаў для галасавання.

Вядома, што з участкаў для галасавання былі выдалены назіральнікі Юрый Дарашэнка, Мікалай Расюк, Ларыса Шукайла, даверaная асоба кандыдата ў дэпутаты Аксаны Закрэўскай Аксана Самуйлава. Апошняя стала сведкай таго, як пад сталом ускрылі скрыню для датэрміновага галасавання і пачалі туды ўкідваць бюлетэні. Пасля таго, як Самуйлава зрабіла заўвагу, яе выдалілі з выбарчага ўчастка.

На некаторых участках колькасць прагаласаваўшых на даму складала амаль 30% (выбарчы ўчастак №65).

# "ПРАВЕРКА" МІЛІЦЫІ НЕ ПАЦВЕРДЗІЛА ЗАВЫШЭННЯ КОЛЬКАСЦІ ПРАГАЛАСАВАЎШЫХ

Магілёўскай назіральніцы Наталлі Самахвалавай адмовілі ва ўзбуджэнні крымінальнай справы супраць кіраўніцтва ўчастковай касіі. У адказе, які яна атрымала ад начальніка Кастрычніцкага РАУСа Магілёва сп.Клімава, гаворыцца, што скарга былой назіральніцы разгледжана і па ёй праведзена праверка. Падчас праверкі было апытана кіраўніцтва ўчастковай выбарчай камісіі №22, якая ўваходзіла ў склад выбарчай акругі №86, у асобах старшыні камісіі сп. Зданко і намесніка старшыні камісіі спн. Чэрадавай.

Апытаны сп.Зданко патлумачыў міліцыянтам, што падчас выбараў члены ўчастковай камісіі не дапускалі ніякіх парушэнняў, падлік здзяйсняўся правільна, бо падчас падліку прысутнічаў на ўчастку старшыня акруговай выбарчай камісіі.

У сувязі з гэтым прыкметаў крымінальна караемага дзеяння сп. Зданко міліцыяй не выяўлена.

Назіральніца скардзілася ў міліцыю з нагоды таго, што яе звесткі аб колькасці прагаласаваўшых датэрмінова і ў дзень галасавання не супадалі з афіцыйнымі. Паводле звестак назіральніцы ад "Беларускага Хельсінкскага камітэта" Наталлі Самахвалавай, датэрмінова на ўчастку прагаласавала 402 чалавекі, а ў дзень выбараў 506. Лічбы ў афіцыйным пратаколе значна адрозніваліся: датэрмінова прагаласавала 930 чалавек, а ў дзень галасавання 1 333.

У сувязі з разыходжаннем звестак жанчына і скардзілася ў міліцыю. Наталля Самахвалава ўпэўнена, што кіраўніцтва камісіі наўмысна завысіла колькасць прагаласаваўшых, каб была яўка выбаршчыкаў і выбары адбыліся.

# НА ДАМУ ПРАГАЛАСАВАЛА Ў 4 РАЗЫ БОЛЬШ, ЧЫМ НА ЎЧАСТКУ

*Заканчэнне.*
*Пачатак на на старонцы 1*

без назіральніка. І назбіралі агулам... 248 подпісаў! Калі б гэтых подпісаў не было, яўка на выбарчым участку склала бы 41%. А так 59% — і выбары адбыліся.

| Участак | Выбаршчыкаў | Прагаласавалі | Датэрмінова | У асноўны дзень | На даму | Яўка | Яўка без галасавання на даму |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 62 | 1415 | 835 | 216 | 371 | 248 | 59% | 41% |
| 69 | 1570 | 1138 | 137 | 194 | 807 | 72% | 21% |
| 65 | 1835 | 1234 | 155 | 567 | 512 | 67% | 39% |

«Даходзіць да абсурднага, На адным выбарчым участку нібыта запісалася 367 чалавек для галасавання на даму. Назіральнікі засяклі час,і атрымалася на кожнага выбаршчыка па паўтары хвіліны», — распавядае каардынатар назіральнікаў Зміцер Салаўёў.

Яшчэ круцейшы вынік — на выбарчым участку №65, дзе з 1234 чалавек на даму прагаласавалі... 512!

«На даму прагаласавалі 512 чалавек за 2,5 гадзіны, — распавядае назіральнік Томас Якавіцкі. — Прычым, калі пайшлі дзве групы, з адной я накіраваў напарніка. Яны за гэты час сабралі толькі 10 подпісаў. Другая група, што пайшла без назіральніка, сабрала 502 подпісы».


...пісаў выбаршчыкаў у спісе грамадзян, якія маюць права ... у выбарах) 1234
...выбаршчыкаў, якія прынялі ўдзел у галасаванні (вызначаецца ... ліку бюлетэняў, якія знаходзіліся ў скрынях для галасавання), 1234
...выбаршчыкаў, якія прынялі ўдзел у датэрміновым галасаванні 155
...выбаршчыкаў, якія прынялі ўдзел у галасаванні па месцы ... 512
...выбаршчыкаў, якія прынялі ўдзел у галасаванні ў дзень выбараў ... ў участка для галасавання 567
...мы, імёны па бацьку кандыдатаў у дэпутаты, па якіх праводзілася галасаванне ў дзень выбараў (у алфавітным парадку)
4. Колькасць галасоў, пададзеных за кандыдата ў дэпутаты

А самае дзіўнае галасаванне адбылося на выбарчым участку №69. Тут у выбарах паўдзельнічалі 1138 чалавек, з іх на даму прагаласавала... 807! Гэта 51% ад агульнай колькасці выбаршчыкаў на ўчастку. Астатнія маглі не галасаваць, бо выбары адбыліся! Калі б не было галасавання на даму, яўка склала б толькі 21%, а так маем рэкордныя 72%. Паводле слоў назіральніка Юрыя Дарашэнкі, па кватэрах галасы збіралі ўвесь дзень.

«Шэсць сябраў камісіі апрануліся і а 8:15 раніцы накіраваліся ў невядомым напрамку. Яны так і не паказаліся на выбарчым участку, прыехалі толькі пад канец дня а 19:40. Спачатку палічылі датэрміновыя скрыні. Маленькая кучка — 137 галасоў. Затым гэтыя самыя скрыні. Іх не змаглі вытрасці. Яны літаральна былі набітыя. У выніковым пратаколе аказалася, што там 807 бюлетэняў. Было смешна, калі асобна высыпалі дзве вялікія скрыні для асноўнага дня галасавання. У іх аказалася 194 бюлетэні».

Яшчэ як мінімум на 5 участках у Магілёве, згодна з дадзенымі назіральнікаў, на даму прагаласавалі больш за 200 чалавек, без іх выбары б не адбыліся.

Паводле закону, каб прагаласаваць дома, трэба было напісаць заяву ці вусна паклікаць да сябе.

*Віталь Ругайн, Euroradio.fm*

# ПАЛІТЫЧНЫЯ ЗНЯВОЛЕНЫЯ Ў БЕЛАРУСІ

**Праваабарончы цэнтр “Вясна” прызнае наяўнасць у Беларусі палітычных вязняў - асобаў, якія незакона пазбаўлены свабоды за свае палітычныя перакананні, і патрабуе іх неадкладнага вызвалення.**

**1. МІКАЛАЙ АЎТУХОВІЧ.**
**Знаходзіцца ў турме за свае палітычныя перакананні.**
Узяты пад варту 8 лютага 2009 г., асуджаны 6 траўня 2010 г. Вярхоўным судом Рэспублікі Беларусь па ч. 3 арт. 295 Крымінальнага кодэксу (незаконныя дзеянні ў адносінах да вогнястрэльнай зброі, боеприпасаў і выбуховых рэчываў) да 5 гадоў і 2 месяцаў пазбаўленьня волі ва ўмовах строгага рэжыму. Рашэннем суду ад 17 студзеня 2012 г. умовы адбыцця пакарання былі зменены на больш жорсткія, пераведзены з калоніі №5 у Івацэвічах ў турму №1 г.Гродна.

**2. МІКАЛАЙ СТАТКЕВІЧ.**
**Знаходзіцца ў турме за тое, што быў супернікам А.Лукашэнкі на прэзідэнцкіх выбарах 2010 году.**
Узяты пад варту 20 снежня 2010 г., асуджаны 26 траўня 2011 г. судом Партызанскага раёна г.Менску па ч. 1 арт. 293 КК (арганізацыя масавых беспарадкаў, якія суправаджаліся гвалтам над асобай, пагромамі, падпаламі, знішчэннем маёмасці і узброеным супраціўам прадстаўнікам улады) да 6 гадоў пазбаўлення волі ва ўмовах узмоцненага рэжыму. Рашэннем суду ад 12 студзеня 2012 г. умовы адбыцця пакарання былі зменены на больш жорсткія, пераведзены з калоніі №17 у Шклове ў турму №4 г. Магілёва.

**3. ПАВАЛ СЕВЯРЫНЕЦ.**
**Знаходзіцца ў турме за тое, што з'яўляецца палітычным актывістам.**
Узяты пад варту з 20 снежня 2010 г., асуджаны 16 траўня 2011 г. судом Заводскага раёна г.Менску па ч.1 арт. 342 КК (арганізацыя і падрыхтоўка дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак, альбо ўдзел у іх) да 3 гадоў абмежавання волі. Знаходзіцца ў ПУАТ-7 в.Куплін.

**4. ЗМІЦЕР ДАШКЕВІЧ.**
**Знаходзіцца ў турме за тое, што з'яўляецца лідарам Маладога Фронту.**
Узяты пад варту з 18 снежня 2010 г., асуджаны 24 сакавіка 2011 г. судом Маскоўскага раёна г.Менску па ч. 2 арт. 339 КК (злоснае хуліганства) да 2 гадоў пазбаўлення волі ва ўмовах агульнага рэжыму. Знаходзіцца ў калоніі №13 у Глыбокім.

**5. ЭДУАРД ЛОБАЎ.**
**Знаходзіцца ў турме за тое, што з'яўляецца актывістам Маладога Фронту.**
Узяты пад варту з 18 снежня 2010 г., асуджаны 24 сакавіка 2011 г. судом Маскоўскага раёна г.Менску па ч. 3 арт. 339 КК (асабліва злоснае хуліганства) да 4 гадоў пазбаўлення волі ва ўмовах строгага рэжыму. Знаходзіцца ў калоніі №22 у Івацэвічах.

**6. АЛЕСЬ БЯЛЯЦКІ.**
**Знаходзіцца ў турме за тое, што займаўся праваабарончай дзейнасцю.**
Узяты пад варту з 4 жніўня 2011 г., асуджаны 24 лістапада 2011 г. судом Першамайскага раёна г.Менску па ч.2 арт. 243 КК (утойванне прыбыткаў у асабліва буйным памеры) да 4,5 гадоў пазбаўлення волі ва

**Праваабарончы цэнтр «Вясна» - неўрадавая праваабарончая арганізацыя, створаная ў красавіку 1996 году падчас масавых акцыяў пратэсту дэмакратычнай апазіцыі ў Беларусі, якая пасля арыштаў удзельнікаў дэманстрацыяў займалася дапамогай арыштаваным і іх сем'ям. Таму першапачаткова арганізацыя мела назву «Вясна-96». 15.06.1999 г. арганізацыя была зарэгістраваная як Грамадскае аб'яднанне «Праваабарончы цэнтр «Вясна». Уяўляе сабой рэспубліканскае аб'яднанне з цэнтрам у г.Мінску і рэгіянальнымі арганізацыямі ў большасці буйных гарадоў Беларусі. Па ўсёй краіне колькасць сябраў складае каля 200 чалавек. Асноўныя паўнамоцтвы па кіраванні арганізацыяй належаць Радзе і Старшыні Рады, якія абіраюцца на Агульным сходзе.**

**Рашэннем Вярхоўнага суда Рэспублікі Беларусь 28.10.2003 г. за ўдзел у назіранні падчас прэзідэнцкіх выбараў 2001 г. Праваабарончы цэнтр «Вясна» быў беспадстаўна пазбаўлены дзяржаўнай рэгістрацыі. Сябры арганізацыі неаднаразова спрабавалі дамагчыся легальнага статусу арганізацыі, але беларускія ўлады па надуманых прычынах адмаўлялі ім ў гэтым. 06.03.2004 г. ПЦ «Вясна» быў прыняты ў Міжнародную Федэрацыю Правоў Чалавека (FIDH).**

**Праваабарончы цэнтр «Вясна» займаецца аказаннем юрыдычнай, матэрыяльнай ды іншай дапамогі рэпрэсаваным і іх сем'ям, маніторынгам сітуацыі з правамі чалавека ў Беларусі, назіраннем за выбарчымі кампаніямі, асветніцкай дзейнасцю ў галіне правоў чалавека.**

ўмовах узмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці. Адбывае пакаранне ў калёніі №2 г.Бабруйску.

**7. МІКАЛАЙ ДЗЯДОК.**
**Знаходзіцца ў турме за свае палітычныя перакананні.**
Узяты пад варту з 3 верасня 2010 г., асуджаны 27 траўня 2011 г. судом Заводскага раёна г.Менску па ч.2 арт. 339 КК (злоснае хуліганства) да 4,5 гадоў пазбаўлення волі ва ўмовах узмоцненага рэжыму. Знаходзіцца ў калоніі №17 у Шклове.

**8. ІГАР АЛІНЕВІЧ.**
**Знаходзіцца ў турме за свае палітычныя перакананні.**
Узяты пад варту з 29 лістапада 2010 г., асуджаны 27 траўня 2011 г. судом Заводскага раёна г.Менску па ч.2 арт. 339 КК (злоснае хуліганства), ч.2 і ч.3 арт.218 КК (пашкоджанне маёмасці агульнанебяспечным спосабам і ў асабліва буйным памеры) да 8 гадоў пазбаўлення волі ва ўмовах узмоцненага рэжыму. Знаходзіцца ў калоніі №10 у Наваполацку.

**9. АЛЯКСАНДР ФРАНЦКЕВІЧ.**
**Знаходзіцца ў турме за свае палітычныя перакананні.**
Узяты пад варту з 3 верасня 2010 г., асуджаны 27 траўня 2011 г. судом Заводскага раёна г.Менску па ч.2 арт. 351 КК (наўмыснае знішчэнне камп'ютарнай інфармацыі) і ч.2 арт.339 КК (злоснае хуліганства) да 3 гадоў пазбаўлення волі ва ўмовах узмоцненага рэжыму. Знаходзіцца ў калоніі №22 у Івацэвічах.

**10. ВАСІЛЬ ПАРФЯНКОЎ.**
**Знаходзіцца ў турме за тое, што з'яўляецца палітычным актывістам.**
Асуджаны да адбыцця пакарання ў выглядзе 6 месяцаў арышту 9 жніўня 2012 г. паводле прысуду суда Першамайскага раёну г.Менску ад 29 траўня 2012 г. па артыкуле 421 Крымінальнага кодэксу Рэспублікі Беларусь («парушэнні ўмоваў прафілактычнага нагляду»). Адбывае пакаранне ў СІЗА г.Баранавічы.

**11. * ЯЎГЕН ВАСЬКОВІЧ.**
**Знаходзіцца ў турме за свае палітычныя перакананні.**
Узяты пад варту з 17 студзеня 2011 г., асуджаны 18 траўня 2011 г. судом Бабруйскага раёна і г.Бабруйску ч.2 арт.339 КК (злоснае хуліганства) і ч.3 арт.218 КК (пашкоджанне маёмасці ў асабліва буйным памеры) да 7 гадоў пазбаўлення волі ва ўмовах узмоцненага рэжыму. Рашэннем суду ад 12 кастрычіка 2011 г. умовы адбыцця пакарання былі зменены на больш жорсткія, пераведзены з калоніі №15 у Магілёве ў турму №4 г. Магілёва.

**12. * АРЦЁМ ПРАКАПЕНКА.**
**Знаходзіцца ў турме за свае палітычныя перакананні.**
Узяты пад варту з 17 студзеня 2011 г., асуджаны 18 траўня 2011 г. судом Бабруйскага раёна і г.Бабруйску ч.2 арт.339 КК (злоснае хуліганства) і ч.3 арт.218 КК (пашкоджанне маёмасці ў асабліва буйным памеры) да 7 гадоў пазбаўлення волі ва ўмовах узмоцненага рэжыму. Знаходзіцца ў турме №15 у Магілёве.

**У дзеяннях дадзеных асобаў угледаюцца прыкметы правапарушэння, але адзначаем несправядлівую кваліфікацыю іх дзеянняў і празмернасць вынесенага пакарання. Лічым, што яны адбылі ўжо дастатковае пазбаўленне волі для здзейсненага ўчынку і ўтрыманне надалей іх у зняволенні палітычна матываванае.*

## СПРАВКА

### Кто такие политзаключённые?

**Авторитетная международная организация «Международная амнистия» политзаключённым называет человека, в лишении свободы которого присутствует существенный политический момент.**

**Политизаключенных зачастую осуждают по итогам процессов, сопровождавшихся нарушениями международных норм справедливого судопроизводства. Иногда их годами держат в предварительном заключении без суда и следствия. Amnesty International требует, чтобы все политические заключенные предстали перед справедливым судом в разумные сроки.**

**В отличие от узников совести, среди политзаключённых могут быть и те, кто прибегал к насильственным действиям (в том числе совершая уголовно-наказуемые деяния), либо призывал к насилию или вражде. Однако все обвинения в их адрес либо их часть могут быть и ложными. Amnesty International добивается лишь того, чтобы дела таких людей были рассмотрены в суде в разумные сроки и с соблюдением всех гарантий справедливого суда, как-то: право на адвоката по своему выбору, отказ от рассмотрения показаний, полученных под пытками и так далее.**

**Термин «политзаключенный» не означает, что человек обладает каким-то особым статусом, или что организация придаёт ему какое-то особое значение. Amnesty International не поддерживает и не опровергает взгляды таких людей, а также никак не оценивает необходимость тех или иных боевых действий в ходе политического противостояния или конфликта.**

# БЕЛОРУССКИМ ПОЛИТЗАКЛЮЧЕННЫМ ВАЖНА ВАША ПОДДЕРЖКА

Людям, которые лишены свободы за свои убеждения, особенно важна поддержка общества. Найдите несколько минут и напишите политическим заключенным! Возможно, именно ваши слова помогут им выдержать испытание неволей.

Вы можете написать политзаключенным письмо, подписать открытку, послать телеграмму (они принимаются также и по телефону, номер службы - 166).

**Алесь Беляцкий:**
213807, Могилевская обл., г. Бобруйск, ул. Сикорского, 1, ИК №2, отряд 14

**Николай Статкевич, Евгений Васькович:**
212011, г. Могилев, ул. Крупской, 99а, тюрьма №4

**Николай Дедок:** 213004, Могилевская обл., г. Шклов, ИК №17

**Артем Прокопенко:** 213105 г. Могилев, Славгородское шоссе, 183, ИК №15

**Николай Автухович:** 230023, г. Гродно, ул. Кирова, 1, тюрьма №1

**Дмитрий Дашкевич:**
211791, Витебская область, г. Глубокое, ул. Советская, 205, ИК №13

**Эдуард Лобов, Александр Францкевич:**
225295, Брестская обл., г. Ивацевичи, «Волчьи норы», а/я 20, ИК №22

**Игорь Олиневич:** 211440, Витебская обл., г. Новополоцк, ул. Техническая, 8, ИК №10

**Василий Парфенков:**
225413, Брестская обл., г. Барановичи, ул. Брестская, 258, СИЗО №6

**Павел Северинец:** 225143, Брестская обл., Пружанский р-н, д.Куплин, ПУАТ-7

**Старонка Магілёўскага аддзялення Праваабарончага цэнтру «Вясна» ў інтэрнэце:**

**www.mahilyowspring.org**

Праваабарончы веснік. Магілёўскі праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь. Распаўсюджваецца бясплатна. Наклад: 299 ас.